Жыве Беларусь!




Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

# Родная ніва

Заснавана ў красавіку 1918 года

2000
12 ЛІПЕНЯ
СЕРАДА
№ 54 (9541)

## Условия
### районного соревнования работников сельского хозяйства, занятых на заготовке кормов в 2000 году

В целях своевременного и качественного проведения кормоуборочных работ в 2000 году организовать районное соревнование среди колхозов, совхозов, а также механизаторов, занятых на заготовке кормов.

Победителями в соревновании признаются:

1. на косьбе трав — механизаторы, скосившие наибольшее количество гектаров трав в установленные рабочим планом оптимальные сроки на косилках типа КС-2,1-КРН-2,1; Е-302-КПС-5Г;

2. на ворошении, сгребании сена — механизаторы, добившиеся наибольшей выработки в гектарах на агрегатах типа ГВЦ-3, ГВК-6, ГВР-4,2, ГВР-630;

3. на прессовании сена — механизаторы, заготовившие наибольшее количество тонн сена на пресcподборщиках типа ПРТ-1,6; ПРФ-750, ПРФ-145.

4. Для победителей соревнования — механизаторов учреждается по одному призовому месту на каждую марку кормоуборочного агрегата, с вручением денежных премий в размере 6 минимальных заработных плат.

5. На измельчении и подборе сенажной и силосной массы на измельчителях типа КСК-100, Е-281, "Полесье" установить по три призовых места по каждому агрегату за наивысшую выработку в тоннах:

| | |
|---|---|
| за первое место | 6 минимальных заработных плат |
| за второе место | 5 минимальных заработных плат |
| за третье место | 4 минимальные заработные платы |

6. На заготовке сенажа, силоса признать победителями механизированные отряды, заготовившие наибольшее количество тонн, с наименьшим количеством затраченных дней на закладку траншеи, с вручением денежной премии в размере:

| | |
|---|---|
| за первое место | 30 минимальных заработных плат |
| за второе место | 25 минимальных заработных плат |
| за третье место | 20 минимальных заработных плат |

7. Руководители хозяйств, которые обеспечат заготовку высококачественных кормов для общественного животноводства не менее 75 процентов 1 класса, добьются наибольшего увеличения выхода кормов с гектара сельскохозяйственных угодий (в пересчете на кормовые единицы)

| | |
|---|---|
| за первое место | 10 минимальных заработных плат |
| за второе место | 8 минимальных заработных плат |
| за третье место | 6 минимальных заработных плат |

8. Главные инженера хозяйств, обеспечившие бесперебойную работу техники на заготовке кормов, где заготовлено кормов не менее 75 процентов 1 класса

| | |
|---|---|
| за первое место | 8 минимальных заработных плат |
| за второе место | 6 минимальных заработных плат |
| за третье место | 4 минимальные заработные платы |

9. Учредить одно призовое место для предприятий и организаций города, принявших активное участие в оказании шефской помощи колхозам и совхозам при заготовке кормов, с вручением денежной премии в размере 15 минимальных заработных плат.

10. Обязательным условием при подведении итогов соревнования является выполнение сменных норм выработки, качественное проведение всех видов кормоуборочных работ в оптимальные сроки, качество заготовленного корма.

11. Итоги соревнования подводятся в соответствии с рабочим планом по завершению кормоуборочных работ.

12. Коллективы, допустившие производственный травматизм со смертельным исходом, связанный с обслуживанием кормоуборочной техники при подведении итогов соревнования из числа победителей исключаются.

13. Рекомендовать всем колхозам и совхозам района разработать условия внутрихозяйственного соревнования за своевременное и высококачественное выполнение работ по заготовке кормов.

**Начальник управления сельского хозяйства и продовольствия райисполкома**
**Н. М. КОДАТЕНКО**

**Председатель райкома профсоюза работников агропромышленного комплекса**
**В. А. ТИПАНКОВ**

## Правафланговыя касавіцы

**(Згодна даных райкама прафсаюза работнікаў АПК)**

**Саўгас "Малышкавічы"**

ДАНІЛЕНКА Васіль Сямёнавіч на кормаўборачным камбайне "Палессе-250" за 13 дзён нарыхтаваў 1242 тоны зялёнай масы пры плане 650 тон. Заданне выканана на 191%.

КУЛЬКОЎ Уладзімір Аляксеевіч на трактары К-700 за 13 дзён перавёз 956 тон зялёнай масы пры норме 533 тоны — выкананне склала 179%.

ЗАХАРЭНКА Іван Якаўлевіч на трактары МТЗ-80 перавёз 320 тон кармоў пры норме 182 тоны, што склала 176% да запланаванага.

**Саўгас "Мілаславіцкі"**

ЯЗЫМАЎ Аляксандр Барысавіч на Е-301 скасіў 205 гектараў сенажацяў пры норме 160, або 128% да намечанага.

ПАПКОЎ Васіль Уладзіміравіч падабраў і здрабніў валкоў на Е-281 за 16 дзён 627,6 тоны пры норме 576 тон (109%).

КРЭСАЎ Яўген Барысавіч на КСК-100 за 11 дзён нарыхтаваў 585,1 тоны кармоў пры норме 264 тоны, што складае 222%.

**Племзавод "Ціманава"**

ФЁДАРАЎ Сяргей Браніслававіч на КСК-100 за 21 дзень назапасіў 1450 тон кармоў пры норме 1200 тон або 121%.

МУШУРУЕЎ Мікалай Пятровіч на МТЗ-82 у агрэгаце з КРН-2,1 за 20 дзён скасіў 240 гектараў пры норме 180 — заданне выканана на 133%.

**Саўгас "Высакоўскі"**

МЕНЖУРАЎ Аляксандр Віктаравіч на МТЗ-82 у агрэгаце з КРН-2,1 за 26 дзён скасіў 153 гектары траў пры норме 130 гектараў (117%).

ШЫЛАЎ Аляксей Леанідавіч на МТЗ-82 у счэпе з КРН-2,1 за 24 дні скасіў 142 гектары пры норме 120, або 118% да плана.

ПАПЯЛЫШКА Віталь Пятровіч на МТЗ-82 у агрэгаце з ГВР-630 за 19 дзён выканаў работы на варашэнні сена на плошчы 489 гектараў пры норме 247 гектараў, або 149% да намечанага.

РАМАНОЎСКІ Анатоль Васільевіч самаходнай касілкай за 12 дзён скасіў 105 гектараў траў пры норме 81 гектар (130%).

**Дапаможная гаспадарка ЛГЗ**

Завершана нарыхтоўка сена і сенажу першым укосам. Назапашана сена 751 тона, што на 1666 тон больш мінулагодняга.

КУБЫШКА Аляксандр Аляксеевіч на кормаўборачным камбайне "Палессе" за 9 дзён скасіў 146 гектараў траў пры норме 108 гектараў, што складае 135% да задання. Ім жа падабрана і здробнена валкоў за 8 дзён 477 тон, што амаль у два разы больш нормы.

ФЁДАРАЎ Юрый Пятровіч на КСК-100 за 8 дзён скасіў і здрабніў 554 тоны зялёнай масы пры норме 240 тон. Заданне выканана на 230%.

МІХАЛЬКОЎ Сяргей Афанасьевіч на МТЗ-82 у агрэгаце з ПРФ-750 запрэсаваў за 15 дзён 354 тоны сена пры норме 225 тон, або 157%.

КУРЦІКАЎ Уладзімір Васільевіч на МТЗ-1221 у агрэгаце з ПІМ-40 за 8 дзён перавёз 276 тон зялёнай масы пры норме 200 тон (138%).

ПАДАБЕД Мікалай Уладзіміравіч на аўтамашыне КамАЗ перавёз за 10 дзён 252 тоны сена пры норме 150 тон, або 168%.

**Калгас "Рабочы"**

ШПАКАЎ Аляксандр Васільевіч на Е-303 скасіў за дзень 26 гектараў траў пры норме 7 гектараў (371%), за 5 дзён — 86 гектараў або 245% да задання.

ПАЧАЧУРА Аляксандр Уладзіміравіч на МТЗ-82 у агрэгаце з ГВР-6 выконвае дзённыя заданні на варашэнні сена на 150-200%.

МАЛАХАЎ Іван Міхайлавіч на МТЗ-82 з ПРФ-750 запрэсаваў за дзень 20 тон сена пры норме 14, або заданне выканаў на 142%.

## Абкошванне весцi рэгулярна

Працягваецца добраўпарадкаванне Клімавічаў, і работа гэтая, нягледзячы на праблемы, будзе паслядоўна працягвацца.

Але і пустазелле не дрэмле, і неахайных людзей хапае. Як вядома, за кожнай арганізацыяй, прадпрыемствам і ўстановай замацаваны рашэннем райвыканкама адпаведныя тэрыторыі, за санітарны стан якіх кіраўнікі нясуць поўную адказнасць. Тым не менш работу гэтую многія пусцілі на самацёк.

Старшыня раённага выканаўчага камітэта У. В. Канавалаў, аб'ехаўшы ў чарговы раз раён, з такой нагоды і правёў лятучку па добраўпарадкаванню. Звяртаючыся да яе ўдзельнікаў — старшынь сельскіх Саветаў, раду кіраўнікоў, участковых інспектараў РАУС — кіраўнік мясцовай вертыкалі падкрэсліў, што патрабаванні за культуру горада і вёсак будуць самымі строгімі і прынцыповымі. Абкошванне райцэнтра, вёсак неабходна пачаць неадкладна.

## Укралі правады — без святла

Крадзяжы алюмініевых правадоў, нават з дзейнічаючых ліній электраперадач нас ужо, як гавораць, "дасталі". Гінуць людзі, населеныя пункты працяглы час застаюцца без святла, пакутуе вытворчасць, а хапугі працягваюць свае варварскія набегі.

У. В. Канавалаў засяродзіў увагу ўдзельнікаў лятучкі на тым, што і сельсаветам, і дэпутатам, і ўчастковым інспектарам РАУС важна паўсядзённа тлумачыць насельніцтву: будзеце абыякава сузіраць такое становішча — самі будзеце пакутаваць. Бо часта людзі бачаць, а то і ведаюць, хто займаецца крадзяжамі і — маўчаць. У выйгрышы застаюцца злодзеі.

**Н. ЛЕНЧЫКАЎ.**

## Работа ў ахвоту — дысцыплінаваным

Рабочая планёрка ў старшыні раённага выканаўчага камітэта У. В. Канавалава пачынаецца заўсёды з інфармацыі кіраўнікоў аб тым, як вырашаюцца пытанні, што знаходзяцца на кантролі.

А гэта — якасць будаўніча-мантажных работ, падрыхтоўка школ да новага навучальнага года, работа па добраўпарадкаванню горада і вёсак, арганізацыя культасветработы на сяле, дзейнасць праваахоўных органаў і іншае.

На днях будуць падведзены вынікі спаборніцтва малаказдатчыкаў і малаказборшчыкаў. Працягваецца падрыхтоўка тэхнікі і зернесушыльнага абсталявання да прадстаячай уборкі.

Мысліць па-сучаснаму, быць дысцыплінаванымі, — тады і работа будзе ў ахвоту, — падкрэслена на планёрцы.

**Н. ЛЕНЧЫКАЎ.**

**Напярэдадні жніва**

## Будзь важкім, колас

На палетку каля КЗС-20 у калгасе імя Янкі Купалы набіраюць сілу буракі, праполаныя ў асноўным сваімі сіламі, хаця і шэфы з КХП дапамагалі. Наліваецца пакрысе збажына, распраўляе "плечы" кукуруза.

На КЗС ішлі апошнія тэхнічныя даводкі. Машыністам тут будзе працаваць не першы ўжо сезон Фёдар Даўбенька з напарнікам Сяргеем Пачачуевым.

Старшыня праўлення гаспадаркі Уладзімір Цыбульскі паказвае і сушыльны агрэгат, так званую "карусель". Ён — адзіны, што дзейнічае ў раёне , астатнія загадалі доўга жыць.

— Восем тон можна адразу сюды загружаць, — тлумачыць машыніст Мікалай Тарасаў. — Было б толькі зерне.

Камбайнаў у купалаўцаў 5. Адвозку будуць забяспечваць 12 аўтамашын (летась тут з гэтым спраўляліся без пабочнай дапамогі). Але не пашкодзіць і адна адзінка з КХП.

Ёсць і свая пажарная машына. Камбайнер Генадзь Грэкаў і Іван Купрэеў, што займаліся на мехдвары рамонтам, скардзіліся, што электраэнергія прападае: "ні падварыць, ні тачануць нічога нельга". Пэўна, зараз гарадскія энергетыкі навялі з гэтым парадак. А мы нагадаем: у перыяд жніва трэба ўсёй грамадой стаць на шляху злодзеяў, якія крадуць правады з электраліній.

**Н. РАСКАТАЎ.**

## Шануем вас, ветэраны

Напярэдадні свята — Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь у раённым краязнаўчым музеі праходзіла чарговае шанаванне хора ветэранаў вайны і працы, які нядаўна атрымаў званне народнага.

Аддзел сацыяльнай абароны райвыканкама арганізаваў для шаноўных людзей салодкі стол, а намеснік старшыні райвыканкама А. А. Саўкін уручыў ім падарункі.

Ветэраны, як заўсёды, не засталіся ў даўгу: яны ад душы спявалі для сваіх дарагіх гасцей, якія прыйшлі да іх на пасяджэнне клуба "Ветэран".

**В. КВАРЦЮК.**

# Свята маладых





У маляўнічым месцы (на ўскрайку леса бліз вёскі Рэут) праводзілася і гэта свята — Дзень моладзі. Не вельмі актыўна але, пакрысе народ сабраўся. Усіх, хто прыйшоў у нядзелю адпачыць сюды, вітаў загадчык аддзела па справах моладзі райвыканкама Вячаслаў Ларыёнаў. Яму прадаставілі слова вядучыя святочнай праграмы Марына Голікава і Галіна Судзілоўская. А ў праграме першай справай было ўзнагароджванне Ганаровымі граматамі РК ГА БПСМ і названага ўжо аддзела райвыканкама. Іх за актыўную работу з моладдзю атрымалі: Мікалай Малаткоў (ВА ЖКГ), Таццяна Фрузорава (на здымку) і Ірына Аўхіменка (РЦК), Алена Мінчанка і Таццяна Носарава (СШ № 1 і № 2), Сяргей Гарэлаў (сельгастэхнікум), Максім Зайцаў (СШ № 3).

Прыняць удзел у конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні было нямала жадаючых. І членам журы даволі цяжка было вызначыць лепшых. І як бы там не было — яны названы: гэта Святлана Грышанкова (першае месца), Юрый Арлоўскі (другое) (на здымку), Таццяна Фрузорава (трэцяе). Ім былі ўручаны прызы. Уладальнікамі заахвочвальных сталі Галіна Судзілоўская і Ганна Храпунова. Прыза сімпатый гледачоў удастоена Вікторыя Карніенка.

Паралельна з конкурсам праходзілі спартыўныя спаборніцтвы. У такім відзе, як пляжны валейбол, перамагла каманда КХП-2 у складзе Сяргея Ляднёва і Сяргея Лісічкіна. На другім месцы



Уладзімір Ляднёў і Ігар Гамолка — каманда "Зорачка", на трэцім валейбалісты райспажыўтаварыства — Ігар Саталаў і Мікалай Дзякан.

У падняцці гіры лепшыя вынікі ў сваіх вагавых катэгорыях паказалі: Генадзь Апанасюк (ЛГЗ), Мікалай Малаткоў. На шахматнай дошцы асабліва ўдала згулялі Яўген Папоў, Аляксей Карначоў і Леанід Молахаў.

Затым пачалася забаўляльная праграма з вясёлымі конкурсамі, віктарынамі і, вядома ж, прызамі.

На працягу ўсяго гэтага часу актыўна працаваў гандаль райспажыўтаварыства і ТГЦ "Гарант".

Назавем жа і арганізатараў свята: гэта райкам грамадскага аб'яднання БПСМ, аддзелы культуры, па справах моладзі, па фізічнай культуры, спорту і турызму райвыканкама.

**В. КВАРЦЮК.**

### З нагоды юбілею

# "Людзі ў белых халатах..."

Сустракаючы сёлета сваё прафесійнае свята, медыкі раёна адзначалі і даволі знамянальную дату — 140-годдзе з дня заснавання бальніцы ў горадзе Клімавічы. З нагоды гэтага ў актавай зале сельгастэхнікума ладзілася свята — вечар-шанаванне.

Гартаючы старонкі гісторыі да сённяшняга дня, было аб чым расказаць перад вялікай аўдыторыяй калег і гасцей галоўнаму ўрачу раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Уцепкалію Іхсанавічу Абулхаіраву. А вось і першыя ганаровыя госці, якіх аўтар і вядучая праграмы вечара Ірына Аўхіменка запрасіла на сцэну: гэта ў мінулым супрацоўнік камітэта народнага кантролю БССР В. І. Більдзюкоў і былы старшыня Клімавіцкага райвыканкама У. В. Сцяпанаў. Людзі, якія мелі непасрэднае дачыненне да будаўніцтва першай тыповай бальніцы ў вобласці — нашай раённай бальніцы.

Віншаваў віноўнікаў урачыстасці ад імя раённага выканаўчага камітэта яго старшыня У. В. Канавалаў і ўручаў Ганаровыя граматы. Затым бралі слова для добрых пажаданняў і ўзнагароджвання лепшых прадстаўнікоў у галіне аховы здароўя на Клімаўшчыне старшыня раённага Савета дэпутатаў С. М. Баранаў і старшыня абкама прафсаюза медыцынскіх работнікаў А. П. Вырко. Сярод узнагароджаных: У. І. Абулхаіраў, С. І. Сарока, В. П. Булахава, Т. А. Гамолка, Н. А. Коўзан і многія іншыя.

Сваіх клімавіцкіх калег па рабоце вітаў са святам і госць з Мсціслаўля — галоўны ўрач Р. А. Грышчык.

Медыцынскія работнікі часоў вайны. Нязгасную сваю вернасць міласэрнасці шаноўныя ветэраны Вольга Лазараўна Качаноўская, Фаіна Карпаўна Камкова, Георгій Іванавіч Яшын перадаюць маладым, з пакалення ў пакаленне.

На сцэну былі запрошаны затым Уцепкалій Іхсанавіч Абулхаіраў, Георгій Іванавіч Яшын і Эдуард Феафанавіч Дзернушкоў. Яны з вялікай кагорты кіраўнікоў, што ў розныя перыяды часу ведалі пытаннямі аховы здароўя ў раёне.

Нямала сіл, энергіі аддалі рабоце, сваім пацыентам, заслужылі адпачынак, але прадаўжаюць працаваць Афанасія Максімаўна Лазарэнка, Ніна Міхайлаўна Ісачанка, Міхаіл Якаўлевіч Кавалёў, Надзея Сяргееўна Лук'янава, Марыя Тарасаўна Клімянкова, Людміла Фёдараўна Сталярова, Святлана Гусманаўна Казлова, Таісія Ягораўна Шэўкунова, Ларыса Яфімаўна Гладкая, Раіса Нічыпараўна Качнова, Якаў Паўлавіч Рашук. І іх запрасілі на сцэну, каб яшчэ раз павіншаваць са святам, падзякаваць за працу.

Шмат добрых слоў было сказана ў адрас медыцынскіх сясцёр увогуле і ў прыватнасці: Любові Іванаўны Лукашэвіч, Ганны Іванаўны Дабрасельскай, Ніны Фёдараўны Шалыгінай, Рымы Васільеўны Прыгожавай, Лідзіі Самойлаўны Бяляевай, Ганны Фёдараўны Старавойтавай, Раісы Пятроўны Прыгорка, Галіны Барысаўны Хлудковай, Святланы Канстанцінаўны Шорнікавай, Зінаіды Міхайлаўны Рашук, Валянціны Альховік, Валянціны Васільеўны Бараноўскай, Тамары Міхайлаўны Рыжанковай, Надзеі Васільеўны Гулевіч, Людмілы Міхайлаўны Кавалёвай, Тамары Георгіеўны Краўцовай, Іны Сяргееўны Пушновай.

Прыняўшых як эстафету "огонь из чаши исцеленья" — маладое пакаленне медыкаў — прадстаўляла Святлана Іванаўна Сарока.

Усім, каго запрашалі на сцэну, уручаліся памятныя сувеніры. Ім, і, вядома ж, усім у зале музычныя падарункі ад вакальнага ансамбля РТМА і медыкаў Жаны Бандарэнка, Святланы Цітовай, Тамары Маскалёвай, Надзеі Гулевіч, Галіны Хлудковай, Таццяны Карасёвай, Міхаіла Шпакава, Ірыны Жураўлёвай. Чытала вершы Галіна Цыганкова (аўтар), а таксама спявалі песні для шаноўных "людзей у белых халатах" работнікі РЦК Ірына Аўхіменка і Наталля Грышкевіч.

**В. КВАРЦЮК.**

# Дзе розум і душа чэрпаюць сілы

## (Да 80- годдзя ўтварэння Клімавіцкай раённай бібліятэкі)

80 год для бібліятэкі — гэта ўзрост сталасці і разам з тым — адраджэння. Для нас, бібліятэчных работнікаў, гэта час перагляду сваёй місіі: быць у пошуку новых напрамкаў дзейнасці і аказваць істотны ўплыў на фарміраванне інфармацыйнага і культурнага асяродка края.

Гісторыя развіцця бібліятэчнай справы ў Клімавіцкім раёне непасрэдна звязана са стварэннем раённай бібліятэкі. Яна была створана на базе грамадскай бібліятэкі ў 1920 годзе. Першапачаткова кніжны фонд яе складаў 3500 экземпляраў. Шкада, але ў архівах не захаваліся звесткі пра першых бібліятэкараў, бо хутчэй за ўсё яны працавалі на грамадскіх пачатках.

У час Вялікай Айчыннай вайны фашысты знішчылі амаль усе ўстановы культуры ў раёне. У 1943 годзе Клімавічы былі вызвалены. Усюды былі бачны сляды вайны: руіны, папялішчы. Старажылы памятаюць стары драўляны будынак былой царквы стогадовай даўнасці, які выпадкова захаваўся. Вось у ім размясціліся адначасова РДК, кінафікацыя, а на другім паверсе — раённая бібліятэка. Яна займала два маленькія пакойчыкі, але напачатку і іх было дастаткова, бо кніг было вельмі мала.

З 1945 года загадчыцай бібліятэкі працавала Баранчук Бася Лазараўна. Кнігі збіраліся ў жыхароў горада: той, хто ішоў запісвацца ў бібліятэку, павінен быў прынесці і падарыць бібліятэцы кнігу. Кніжны фонд на той час саставіў 1870 экземпляраў.

З 1950 года бібліятэку ўзначаліла Базылева Марыя Адамаўна. Бібліятэку пераводзілі з аднаго памяшкання ў другое. Пакуль, нарэшце, у 1961 годзе спецыяльна для яе не было пабудавана памяшканне з былой царквы, дзе яна знаходзіцца і зараз. У гэты час бібліятэку ўзначаліла Старавыбарная Марыя Цітаўна, стаpанны, руплівы работнік. Разам з ёю тады працавалі Людміла Рыгораўна Сініцкая, Барыс Ноевіч Доўжык, Цыля Геселеўна Маневіч, Святлана Пракопаўна Уланава, якія прысвяцілі сваё жыццё развіццю кніжнай культуры раёна. Ім ніколі не было проста, але яны перамагалі цяжкасці з годнасцю, з упэўненасцю ў грамадскай значнасці сваёй місіі. Мерапрыемствы, якія праводзіліся бібліятэкай у той час, аб'ядноўвалі шырокае кола чытачоў і былі прысвечаны розным палітычным кампаніям. І трэба зазначыць, што яны выклікалі вялікую цікавасць у чытачоў, бо нараджалі веру ў новае, лепшае жыццё.

У 1971 годзе раённую бібліятэку ўзначаліла Рыта Мікітаўна Рыхнова. Яе заўсёды адрознівала спалучэнне патрабавальнасці да сябе і тых, хто працаваў побач з уменнем усяліць у іх веру, падтрымаць, дапамагчы. У 1976 годзе разам са сваімі супрацоўнікамі яна пачала праводзіць цэнтралізацыю, развіваць бібліятэчную сетку, наладжваць даведачна-бібліяграфічную, метадычную і інфармацыйную работу. У гэты час у бібліятэцы пачалі працаваць такія майстры сваёй справы, як Святлана Іванаўна Грышчанка, Людміла Міхайлаўна Садоўская, Валянціна Леанідаўна Мычко, Ніна Аляксандраўна Гарэлава, Людміла Пятроўна Васькоўская, Паліна Міхайлаўна Дароніна. У сувязі з цэнтралізацыяй адкрыліся новыя магчымасці для каардынацыі работы бібліятэк раёна ў фарміраванні кніжных фондаў, інфармацыйным абслугоўванні чытачоў і іншае. Змяніліся і функцыі раённай бібліятэкі. З гэтага часу яна становіцца цэнтральнай.

Дырэктарам цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, пачынаючы з 1982 года, працуе Сіліверстава Антаніна Васільеўна. Цэнтральная бібліятэка адна з першых у рэспублікі арганізавала кабінет навукова-тэхнічнай інфармацыі пры райвыканкаме. Тут рэгулярна праводзіліся Дні інфармацыі, Дні спецыяліста, адкрытыя прагляды літаратуры і іншае.

Клімавічы — гарадок невялікі, усяго 17 тысяч жыхароў. Амаль 4 тысячы з іх наведваюць сёння цэнтральную бібліятэку. Для іх патрэб — цёплае, утульнае памяшканне і, канечне, універсальны, з густам аформлены фонд літаратуры, які зараз налічвае больш 45 тысяч тамоў. Але ўсё ж галоўным здабыткам бібліятэкі з'яўляюцца людзі, якія тут працуюць, для якіх вельмі важна, каб бібліятэка наша выглядала прывабна, каб у яе быў свой, непаўторны стыль работы. Таму яны, зберагаючы традыцыі, шукаюць новыя, нестандартныя формы зносін з чытачамі. Гэта С. П. Уланава, С. М. Кавалёва, Н. А. Гарэлава, Л. А. Мацвеева, В. Л. Мычко, Г. І. Саўчанка, П. М. Дароніна, Л. П. Васькоўская, А. В. Драздоўская, а таксама моладзь: Н. Я. Герасімава, Л. І. Чарканава, Л. І. Калеснікава, В. В. Дароніна, Л. В. Ісачанка, І. М. Аўчыннікава.



**На здымку: калектыў-юбіляр.**

Сёння галоўным у дзейнасці бібліятэкі з'яўляецца садзейнічанне духоўнаму аздараўленню нацыі, адраджэнне духоўнасці ў самым высокім сэнсе гэтага слова, а адсюль — імкненне зрабіць бібліятэку месцам адаптацыі да зменьваючыхся ўмоў жыцця, дзе можна рэалізаваць інтэлектуальныя і духоўныя запыты. На працягу апошніх трох гадоў бібліятэка ўсю работу праводзіла ў рамках праграмы "Вяртанне да вытокаў". У выніку чаго створаны змястоўны "Гісторыка-краязнаўчы цэнтр. Клімавіцкі раён", выдадзены шэраг краязнаўчых зборнікаў: "Жывая памяць Клімаўшчыны" (гісторыя развіцця бібліятэчнай справы ў раёне), "Зямля, дзе пачаўся мой лёс" (гісторыя паходжання назваў вёсак раёна), 4 зборнікі вершаў мясцовых паэтаў. Традыцыйным стаў цыкл літаратурных знаёмстваў з мясцовымі талентамі "На літаратурным Парнасе". А ў мінулым годзе пры бібліятэцы пачаў працаваць клуб "Незабыўныя сустрэчы", які аб'ядноўвае творчую інтэлігенцыю горада і галоўная мэта якога — аб'яднанне людзей з агульнымі інтарэсамі і захапленнямі.

Зараз работнікі бібліятэкі займаюцца распрацоўкай праграмы "Духоўнае адраджэнне", якая з'яўляецца лагічным працягам праграмы "Вяртанне да вытокаў", але рамкі — значна пашыраны. Яна ўключае ў сябе маральнае, эстэтычнае, рэлігійнае, прававое выхаванне і г. д.

Асноўныя намаганні сёння накіраваны на аптымізацыю і пераход на новыя тэхналогіі ў сувязі з камп'ютэрызацыяй. У гэтым напрамку ўжо працуюць аддзелы камплектавання, бібліятэчнага маркетынгу і бібліёграф.

Рыхтуючыся да юбілею бібліятэкі, работнікі стварылі музей гісторыі бібліятэкі "Штрыхі гісторыі кладуцца на старонкі". Мэта яго — збор, фіксацыя, зберажэнне, папулярызацыя матэрыялаў, якія датычацца духоўнай і матэрыяльнай гісторыі бібліятэк Клімаўшчыны, іх арганізатараў, работнікаў, чытачоў.

Азіраючыся праз час, можна з гордасцю зазначыць, што свой юбілей бібліятэка сустракае дастойна і можа па праву ганарыцца як сваім мінулым, так і сучасным. За час свайго існавання яна заўсёды была ў ліку лепшых бібліятэк вобласці, неаднаразова станавілася пераможцам рэспубліканскіх, абласных конкурсаў — аб гэтым сведчаць шматлікія ўзнагароды: граматы, дыпломы, памятныя сувеніры.

80 год аддзяляе нас ад 1920 года. Гэта вельмі многа для гісторыі правінцыяльнай бібліятэкі. Мы працуем з людзьмі, дзеля людзей. Мы і далей будзем вучыць сваіх чытачоў пазнаваць свет, дапамагаць знайсці сваё месца ў жыцці, бо цвёрда ўпэўнены ў тым, што менавіта бібліятэка з'яўляецца базісам цывілізацыі. Поспехаў усім, здароўя, дабрабыту і надзеі!

**А. СІЛІВЕРСТАВА,**
**дырэктар Клімавіцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы.**

# Віншуем!

**Марию Леоновну**
**АНТИПЕНКО**
**с 65-ЛЕТИЕМ!**
**(д. Старый Стан)**

Мамочка наша родная, любимая, бабушка славная, незаменимая! Эти нежные строки тебе — самой милой и самой любимой, самой доброй на этой земле. Спасибо, родная, за то, что растила, за то, что взамен ничего не просила, что горе и радость деля пополам во зсем лучшей доли желала ты нам. Не грусти, что годы пролетают, береги себя и не болей, потому что нет на белом свете человека ближе и родней. Счастья тебе, удачи и самого ценного, что есть у человека — это здоровья на долгие-долгие годы.

**Любящие тебя дочь Надежда, внучка Лена, все родные и близкие.**

*Сустрэчы*

## "Ад вершаў душа не зачэзне"

Гэтыя словы прагучалі з вуснаў вядомай беларускай паэткі Вольгі Іпатавай, якая зараз выконвае абавязкі старшыні Беларускага Саюза пісьменнікаў, на сустрэчы з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі ў Мінску.

У прыватнасці, разважаючы аб ролі беларуская мовы і нацыянальнай літаратурнай спадчыны, Вольга Іпатава падкрэсліла ролю літаратурных старонак у мясцовых выданнях. Менавіта тут пачынаючыя аўтары могуць атрымаць творчы імпульс для паэтычнага станаўлення.

Сёння членамі Беларускага Саюза пісьменнікаў з'яўляюцца 494 чалавекі. Сярод іх і галоўны рэдактар нашай газеты Мікола Мінчанка. На літстаронцы "Зарніцы",якую ён вядзе, атрымалі літаратурнае "хрышчэнне" многія аўтары.

У сустрэчы прымалі ўдзел таксама намеснік старшыні Беларускага Саюза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, старшыні Гомельскага і Брэсцкага аддзяленняў СП Васіль Ткачоў, Алесь Каско і іншыя.

Нагадаем, што цяперашні старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Уладзімір Дуктаў таксама калісь публікаваў свае першыя нататкі ў нашай газеце, дзе ён працаваў. Творчая садружнасць працягваецца і зараз.

**М. ГЛУЗДОЎ.**

## Продам недорого

3-х комнатную квартиру на Известковом с телефоном. Имеется сарай, участок. Обращаться по телефону: 2-11-16 до 20.00 или по адресу: ул. 50 лет СССР, д. 19, кв. 54.

## Будзем акуратнымі!

Ужо неаднаразова на старонках раёнкі мы звярталіся да вас з аналагічнымі гэтаму зваротамі.

... Правядзенне санітарна-гігіенічных мерапрыемстваў, накіраваных на ліквідацыю і папярэджанне забруджвання знешняга асяроддзя, аздараўленне ўмоў працы, быта і адпачынку насельніцтва, з'яўляецца абавязкам усіх дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, прафесійных саюзаў, іншых грамадскіх арганізацый і грамадзян (з Закона РБ аб ахове здароўя).

Сумеснымі намаганнямі мы — усе жывыя — абавязаны ўтрымліваць у чысціні і ўзорным стане нашы населеныя пункты, двары, кожны дом.

Ёсць рашэнне, якое абавязвае ўсіх домаўладальнікаў:

пастаянна ўтрымліваць у чысціні і ў добрым санітарным стане, вуліцы (да сярэдзіны вуліцы ўздоўж усяго ўчастка);

рабіць уборку вулічных і дваровых тэрыторый па меры неабходнасці (у пятніцу, у адзіны санітарны дзень — абавязкова);

праводзіць афарбаванне жылых дамоў, штыкетнай агароджы, а таксама палепшыць знешняе афармленне фасадаў іншых гаспадарчых пабудоў.

Грамадзяне! Будзьце акуратнымі. Заўсёды і ўсюды захоўвайце правілы ўласнай і грамадскай гігіены, змагайцеся за ўзорны санітарны парадак нашых населеных пунктаў.

**С. СЯРГЕЕЎ,**
**загадчык аддзела гарадской і камунальнай гаспадаркі райвыканкама.**





**"01" сообщает**

## В итоге — смерть

20 июня ночью, в 12 часов 30 минут, на дежурный пункт связи пожарной части города поступило тревожное сообщение от дежурного вахтера общежития, расположенного по улице Кирова,59, что из одной из комнат идет дым. До прибытия к месту происшествия пожарных подразделений, пожар был потушен жильцами общежития, а также был спасен жилец комнаты, в которой произошел пожар — Картинович Сергей, 1970 года рождения. Причиной пожара послужила неосторожность при курении в постели в нетрезвом виде. Картинович С. получил ожоги третей степени.

За умелые действия при тушении пожара и спасении человека от лица пожарной службы хотелось бы объявить благодарность сотруднику милиции Кулешову Юрию Леонидовичу, за своевременное обнаружение и сообщение о пожаре — дежурному вахтеру Осмоловской Ольге Николаевне.

Несмотря на усилия людей при спасении пострадавший был доставлен в реанимационное отделение райбольницы в тяжелом состоянии, где 23 июня скончался.

**С. БОГАТЫРЕВ,**
**старший инспектор Госпожнадзора.**

## Українлі — адказвайце

Раённы аддзел аховы ў ходзе праведзеных з 24 па 30 чэрвеня рэйдаў па аб'ектах аграпрамысловага комплексу выявіў факты дробнага крадзяжу.

Два чалавекі з УКПП "Сосны" укралі 5 кілаграмаў камбікорму. 14 літраў малака было ўкрадзена ў калгасе "Герой працы", 2 літры — у калгасе "Сасноўка", столькі ж — у калгасе "Новае жыццё", 3,5 літра — у саўгасе "Высакоўскі". З трыма лістамі шыферу быў затрыманы злодзей у эксперыментальнай базе "Раднянская".

Электрык сельгастэхнікума Аўраменка С. М. украў на УКПП "Сосны" 30 кг здробненага ячменю. Столькі прадукцыі вынес і рабочы тэхнікума Карасёў Л. Я.

Непрацуючы Карзанаў М. М. вынес са свінакомплекса 30 кілаграмаў камбікорму. З бутэлькай гарэлкі затрыманы на ЛГЗ Юдзін В. М.



## Госці медвыцвярэзніка

**З 23 па 29 чэрвеня гэту ўстанову наведалі:**

Канапля Наталля Віктараўна, 1979 г. н., вул. Савецкая, 38/13, не працуе.

Баранава Таццяна Віктараўна, 1979 г. н., вул. Савецкая, 38/13, не працуе.

Кузняцоў Юрый Аляксандравіч, 1966 г. н., д. Чырвоная Буда, Крычаўскі раён, не працуе.

Раманаў Пётр Іванавіч, 1966 г. н., вул. Я. Купалы, 2, не працуе.

Сідарэнка Сяргей Аляксандравіч, 1979 г. н., вул. Кірава, 5/6, не працуе.

Драздоў Вадзім Уладзіміравіч, 1980 г. н., в. Ходасы Мсціслаўскага раёна, база райпа.

Дадыка Уладзімір Анатольевіч, 1958 г. н., вул. Герцана, 16, райаграпрамтэхснаб.

Саўчанка Віктар Іванавіч, 1951 г. н., вул. Партызанская, 13, не працуе.

Маісееў Уладзімір Фёдаравіч, 1941 г. н., вул. Пралетарская, 12/2, рабочы лазни ВА ЖКГ.

Драздоў Ігар Сяргеевіч, 1973 г. н., вул. Камуністычная, 28/2, слесар КХП.

Каралёў Сяргеў Іванавіч, 1955 г. н., зав. Вакзальны, 4, не працуе.

Ганчароў Аляксандр Фёдаравіч, 1953 г. н., вул. Юнацкая, 13, электрык КХП.

Юдзіна Ларыса Анатольеўна, 1957 г. н., вул. Юнацкая, 13, не працуе.

Міхальчанка Марыя Сямёнаўна, 1944 г. н., вул. 50 год СССР, 12/58, пенсіянерка.

Мацюхін Сяргей Іванавіч, 1969 г. н., в. Галічы, трактарыст калгаса "Галіцкі".

Дугін Сяргей Леанідавіч, 1972 г. н., вул. Ленина, 26/4, трактарыст ВА ЖКГ.

Сасноўскі Мікалай Мікалаевіч, 1972 г. н., вул. 50 год БССР, 12, трактарыст ВА ЖКГ.

Шабаліна Зінаіда Міхайлаўна, 1963 г. н., вул. Герцана, 61, не працуе.

**З 29 чэрвеня па 5 ліпеня 2000 года даную ўстанову наведалі:**

Андрэенка Віктар Дзмітрыевіч, 1965 г. н., вул. Бірузова, 23, работнік райгаза.

Ефіменка Дзіна Міхайлаўна, 1974 г. н., в. Кавалёўка, не працуе.

Фёдаў Сяргей Віктаравіч, 1966 г. н., вул. Савецкая, 49/2 , не працуе.

Фёдава Эмілія Міхайлаўна, 1939 г. н., вул. Савецкая, 49/2, пенсіянерка.

Новікаў Уладзімір Уладзіміравіч, 1963 г. н., вул. Дзяржынскага, 34, не працуе.

Новікаў Васіль Уладзіміравіч, 1955 г. н., вул. Калгасная, 36, рабочы райсельгасхіміі.

Свірыдаў Віктар Сцяпанавіч, 1955 г. н., завулак Шмідта, 5/30, рабочы УКПП "Сосны".

Піліпенка Сяргей Уладзіміравіч, 1962 г. н., вул. Працоўная, 31, кампрэсаршчык райсельгасхіміі.

Шабаліна Зінаіда Міхайлаўна, 1963 г. н., вул. Калініна, 23/4, не працуе.

Падабед Уладзімір Віктаравіч, 1969 г. н., вул. Зялёная, 2, не працуе.

Султаншын Флодзіс Ахсанавіч, 1954 г. н., вул. Пралетарская,3, вадзіцель райсельгасхіміі.

Вараб'ёў Уладзімір Іванавіч, 1956 г. н., вул. Прафсаюзная, 2, вадзіцель райсельгасхіміі.

Кажамякіна Тамара Міхайлаўна, 1960 г. н., вул. Лугавая, не працуе.

Балтоўская Таццяна Рыгораўна, 1963 г. н., вул. Набярэжная, 1/8, не працуе.

Зароўскі Мікалай Міхайлавіч, 1950 г. н., вул. Камуністычная, 17/8, рабочы дапаможнай гаспадаркі ЛГЗ.

Курлукоў Іван Уладзіміравіч, 1950 г. н., в. Ціманава, рабочы племзавода "Ціманава".

Германаў Мікалай Іванавіч, 1928 г. н., вул. Базарная,9, пенсіянер.

Грашчанка Сяргей Іванавіч, 1963 г. н., в. Хатовіж, вадзіцель калгаса "Сасноўка".

Аляксеенка Аляксандр Міхайлавіч, 1953 г. н., зав. Піянерскі,5, не працуе.

Гарбачова Валянціна Аляксандраўна, 1976 г. н., в. Хатовіж, не працуе.

Баранаў Дзмітрый МІкалаевіч, 1980 г. н. вул. Герцана, 27/9, не працуе.

Голубеў Дзмітрый Леанідавіч, 1976 г. н., вул. Леніна, 2в/13.

Петрачэнка Анатоль Аляксеевіч, 1964 г. н., в. Ерашоўка, рабочы дапаможнай гаспадаркі ЛГЗ.

Раўкоўская Наталля Ісакаўна, 1972 г. н., вул. Мічурына,8, не працуе.

Залаценка Іван Дзмітрыевіч, 1947 г. н., в. Яноўка, не працуе.

Васіленка Сняжана Васільеўна, 1978 г. н., в. Хатовіж, не працуе.

Цемнікава Жана Паўлаўна, 1969 г. н., вул. Савецкая, 103, не працуе.

Давыдоў Уладзімір Цімафеевіч, 1928 г. н., вул. Лугавая, 15, пенсіянер.

Васькоўскі Сяргей Міхайлавіч, вул. Тэльмана, 6, не працуе (двойчы).

Дзмітрыеў Марат Аляксандравіч, 1955 г. н., вул. Болдзіна, 95, рабочы КБА.

Леўчанка Аляксандр Міхайлавіч, 1956 г. н., вул. Болдзіна,71, будаўнік РАА.

Мацюхін Іван Іванавіч, 1963 г. н., вул. Шчорса, 5, брыгадзір БМУ-5.

Курачоў Аляксандр Аляксандравіч, 1958 г. н., вул. Герцана, 12/7, не працуе.

Шагінаў Аляксей Іванавіч, 1950 г. н., вул. Леніна, 2в/51, муляр БМУ-5.

Кандраценка Віктар Мікалаевіч, 1957 г. н., в. Ціманава, вул. Азёрная, 22, ТГЦ "Гарант".

Філімоненка Аляксандр Уладзіміравіч, 1954 г. н., зав. Шмідта, 5/53, муляр райгаза.

Дубяга Валянцін Іванавіч, 1953 г. н., вул. Камарова, 14, рабочы дапаможнай гаспадаркі ЛГЗ.

Лазараў Генадзь Іванавіч, 1969 г. н., вул. Калектыўная,1/2, не працуе.

Салодкін Генадзь Яўгенавіч, 1967 г. н., вул. Кірава, 7/60, не працуе.

Курапаткін Анатоль Іосіфавіч, 1957 г. н., вул. Чкалава,5, не працуе.

Туркоў Сяргей Міхайлавіч, 1965 г. н., вул. 50 год СССР, 21/8, не працуе.

Даніленка Васіль Мікалаевіч, 1965 г. н., в. Хацень, вадзіцель аўтапарка № 9.

Старавойтаў Аляксандр Міхайлавіч, 1957 г. н., в. Круглае.

Сцефаненка Леанід Васільевіч, 1955 г. н., вул. Савецкая, 60, не працуе.

Сцефаненка Тамара Мікалаеўна, 1949 г. н., вул. Савецкая, 160, не працуе.

Салаўёва Тамара Міхайлаўна, 1967 г. н., в. Забычанне, работнік Ціманаўскага ГХРГП.

Шамрыцкі Аляксандр Пятровіч, 1972 г. н., в. Лобжа.

Астапенка Віктар Мікалаевіч, 1963 г. н., вул. Віцебская, 5/2, не працуе.

Кухцін Іван Віктаравіч, 1961 г. н., вул. Савецкая, 106, не працуе.

Мамедава Людміла Іванаўна, 1959 г. н., вул. Болдзіна, 52, не працуе.

Зенькові Генадзь Міхайлавіч, 1956 г. н., вул. Савецкая, 30, не працуе.

Міхальчанка Марыя Сямёнаўна, 1944 г. н., вул. 50 год СССР, 12/58.

Чарноў Міхаіл Фёдаравіч, 1961 г. н., г. Магілёў, вул. Каштанавая, 7/51, электраманцёр "Строммашына".

Ефіменка Леанід Уладзіміравіч, 1951 г. н., вул. Кірава, 51/15, зваршчык дапаможнай гаспадаркі ЛГЗ.

## Считать недействительным

утерянный аттестат А № 243127 об окончании СШ № 3 в 1999 году, выданный на имя ТИМОШКОВОЙ Екатерины Александровны.

## Считать недействительным

утерянное свидетельство о базовом образовании А № 035023, выданное в 1993 году на имя КАШО Александра Ильича.

## Срочно продается

жилой кирпичный дом (пять комнат) по ул. Добровольского, 9 (на Михалине), жил. пл. 59 м. кв., отопление паровое, хозпостройки (баня, погреб, гараж, сарай, колонка во дворе), земельный участок 0,2077 га. Обращаться: ул. Дальняя, 7 (на Михалине) по тел. 2-19-31 (рабочий) до 15.00. Спросить Янченко Ольгу.

**Климовичская государственная дорожно-строительная передвижная механизированная колонна № 9**

переименовывается в республиканское унитарное предприятие "Климовичская дорожно-строительная передвижная механизированная колонна № 9 (РУП Климовичская ДСПМК-9) и является ее правопреемником.

**Раённы выканаўчы камітэт, раённы Савет дэпутатаў выказваюць глыбокае спачуванне начальніку ПМК-88 РАМАНЕНКУ Сяргею Іванавічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.**


**Нам. галоўнага рэдактара Мікола ГЛУЗДОЎ**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень — па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 39 руб.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара -- 2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва -- 2-11-60, адказнага сакратара -- 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах -- 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі -- 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі -- 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі -- 2-11-69, мясцовай друкарні --2-31-55.

Рэдакцыя газеты мае права публікаваць артыкулы і іншыя матэрыялы ў парадку іх абмеркавання, не падзяляючы пры гэтым думкі, погляды і меркаванні таго ці іншага аўтара.

За змест аб'яў і іншых рэкламных матэрыялаў рэдакцыя не адказвае. Усе даведкі -- у рэкламадаўцаў.

**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н. Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я. М. Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**
**Зак. 54. Тыраж 1910 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17.00 11. 7. 2000 г.**